# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 12 (1047) ГОД XXI 21 САКАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

**Пуцяводныя думкі**

*Даследуй усё, хай для цябе на першым месцы будзе розум; дазволь яму кіраваць сабой. І тады, калі ты пакінеш сваё смяротнае цела, ты зробішся несмяротным, і смерць не будзе мець улады над табой.*

**Піфагор**

Ідучы на выбары, падводзім вынікі з выканання папярэдняй выбарчай праграмы, хочам даведацца, якая наша стартавая пляцоўка ў блізкую і далёкую будучыню.

Выбарчая дэкларацыя ФАН, гаворачы аб праграме VI з'езду ПАРП, якая адначасова была і выбарчай праграмай Фронту адзінства народу, сцвярджае, што быў гэта найбольш плённы перыяд у гісторыі ПНР. Тое самае можна сказаць і пра развіццё Беласточчыны.

Славутае беластоцкае прысляшэнне выйшла далёка за межы ваяводства. І беластоцкія здзяйсненні таксама садзейнічалі росту агульнапольскага плёну. Дзякуючы працавітасці нашага грамадства, а таксама лепшай арганізацыі працы, мінулая пяцігодка падвоіла вартасць прамысловай прадукцыі. У два разы павялічылася таксама асноўная прадукцыя ў будаўніцтве, гэта значыць, у той галіне гаспадаркі, якая мае вельмі важнае значэнне ў памнажэнні ваяводскай маёмасці.




## НЕ СТРАЦІЦЬ РАЗГОНУ

Карысныя змены адбыліся ў галінавай структуры прамысловасці. Разгортваецца спажывецкая прамысловасць. Яна, разам з сельскай гаспадаркай стварае прадуктовы комплекс. Разгортваюцца электрамашынабудаўнічая, лёгкая і драўнінная прамысловасці. Уступілі ў строй новыя заводы, якія будуць мець істотнае ўздзеянне на далейшае развіццё Беласточчыны. Шэраг заводаў былі мадэрнізаваны і разбудаваны. Будуюцца новыя аб'екты.

Не менш цікавыя з'явы назіраем і ў сельскай гаспадарцы. Глабальная сельскагаспадарчая прадукцыя ў параўнанні з 1970 годам павялічылася на 32 працэнты і значна перавыканала план. Гэтым самым павялічыўся і ўдзел ваяводства ў пракармленні народу. Каля 20 тысяч гектараў ворнай зямлі і звыш 16 тысяч гектараў лугоў і пашы былі меліяраваны. Закончылася электрыфікацыя вёсак. На беластоцкіх вёсках вырасла 28 тысяч новых будынкаў, пачалі выконваць сваю карысную місію 32 вясковыя водаправоды. Вялікі прагрэс адбыўся ў развіцці садова-агароднінннай прадукцыі і свінагадоўлі.

Ёсць поспех і ў іншых галінах жыцця. Створаны новыя факультэты на філіі Варшаўскага універсітэта, створаны Інстытут архітэктуры Беластоцкай палітэхнікі, Дзяржаўная лялечная студыя і Дзяржаўная філармонія. Пабудаваны бальніцы ў Лапах і Сямяцічах, акружная паліклініка ў Беластоку і 25 вясковых цэнтраў здароўя.

Заданні пяцігодкі выканалі мы паспяхова, а ў шмат якіх галінах нават перавыканалі. Можам тады сказаць, што добра выкарысталі мы створаныя партыяй і ўрадам магчымасці развіцця.

Сённяшняя Беласточчына з'яўляецца суцэльным арганізмам. У яго вялікія патэнцыяльныя магчымасці дынамічнага развіцця прамысловасці і — нягледзячы на не найлепшыя глебы — сельскай гаспадаркі.

Перспектыўны план развіцця Беласточчыны вызначаецца смелым узлётам. Бачым у ім вялікае павелічэнне ўдзелу ваяводства ў стварэнні нацыянальнага даходу, вырастаюць у ім новыя жыллёвыя і прамысловыя будоўлі. Адбываюцца змены ў грамадска-гаспадарчай структуры. Значная колькасць вясковых людзей ідзе ў прамысловасць. Сельская гаспадарка атрымлівае лепшае тэхнічнае ўзбраенне. Дзяржава пераймае і загаспадарвае велізарныя абшары зямлі. Да 1990 года вырашыцца жыллёвае пытанне. Кожная сям'я мае сваю самастойную кватэру. Кожнаму таксама запэўнена поўная лекарская апека. Наступае далейшае, усебаковае развіццё асветы, культуры, сацыяльных паслуг, усіх галін грамадскага жыцця.

Праграма развіцця Беласточчыны з'яўляецца паказчыкам нашых імкненняў, грамадскай годнасці. Ажыццявіць яе немагчыма без поўнай падтрымкі ўсяго грамадства. Таму вельмі важна ўжо сёння добра абяспечыць стартавую пляцоўку — 76, не страціць таго разгону, які набылі мы за мінулую пяцігодку. Патрэбнае нам другое прыспяшэнне, якое наблізіць нас да вызначанай мэты з поўнай гарантыяй паспяховага прызямлення.

З гэтымі думкамі пойдзем на выбары і аддамо свае галасы за кандыдатаў ФАН!



*Софія Цацэрка перамагла ў катэгорыі фальклорнай песні.*

Паўнюткая зала Дома прафсаюзаў у Беластоку прывітала ў нядзелю 28 лютага ўдзельнікаў чарговага агляду „Беларуская песня — 76“. Узяць удзел у аглядзе прыехалі і тыя, што спявалі тут ужо няраз (вось хаця б адзін з тых „загонаў поля, на якім вырасла БГКТ“ — славуты Гарадок), прыехалі многія і ўпершыню (назавем тут хаця б цікавы вакальны калектыў са Збуча).

Усяго выступіла 81 асоба, у тым ліку 6 салістаў, 4 дуэты і аж 12 калектываў. Ацэньваючы ў нейкай ступені конкурс, трэба сказаць, што на тых песенных загонах выраслі новыя людзі, якія пры добрым жаданні і старанней падрыхтоўцы могуць дасягнуць многага.

## Людзі з песенных загонаў

І цікавая з'ява — удзельнікі агляду прывезлі з сабою найбольш народных песень. Дастаткова сказаць хаця б тое, што на 12 вакальных калектываў толькі 3 выступілі з сучаснымі песнямі. Значыць, зацікаўленне фальклорнай песняй пашыраецца.

Што датычыцца вакальных груп, дык зусім неспадзявана вырас мужчынскі калектыў з Дубяжына; ён і заваяваў першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні. Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў мяшаны хор беластоцкага гарадскога аддзела, а трэцяе месца падзялілі між сабой жаночыя вакальныя калектывы з Арэшкава і Новай Волі. Апрача таго, за фальклорныя песні атрымалі ўзнагароды калектывы з Меляшкоў і Плёсак.

(Працяг на стар. 2)

**VIII З'ЕЗД БГКТ**

**БАНК ДУМАК**

## ПРАКЛАДЗЕНА ТОЛЬКІ АДНА БАРАЗНА...

Юбілей 20-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства і набліжэнне яго VIII з'езду настройваюць да задумы і разважанняў над мінулай і будучай дзейнасцю нашай арганізацыі.

Вядома, адной з асноўных дзялянак працы БГКТ з'яўляецца мастацкая самадзейнасць, і ў гэтым наша таварыства мае вялікія дасягненні: дзесяткі харавых і тэатральных калектываў за мінулыя дваццаць год далі тысячы выступленняў на Беласточчыне, выязджалі ў турнэ ў іншыя рэгіёны нашай краіны, пабывалі ў БССР. Для прыкладу, адзін толькі тэатральны калектыў у Паўлах за дваццаць год свае працы даў 220 выступленняў! Нашыя цэнтральныя агляды „Беларуская песня“ на працягу пяці год разрасліся ў праўдзівыя фестывалі, святы нашых родных мелодый.

Аднак, гэта не абазначае, што мы можам задаволіцца дасягнутым ды спачыць сабе на лаўрах. У развіцці мастацкай самадзейнасці мы прайшлі ўсяго толькі адну баразну, а нязмераны абсяг поля ўсё яшчэ ляжыць аблогам.

Даўно ўжо пара заняцца самадзейнымі музыкантамі Беласточчыны. Колькі іх, асабліва гарманістаў, ёсць у кожнай мясцовасці! А ёсць жа і гітарысты, і мандалiністы, і балалаечнікі, і скрыпачы. Аж напрошваюцца штогадовыя раённыя і цэнтральныя агляды іх майстэрства.

Бы чароўныя зярняты, рассыпаны па нашых сёлах і мястэчках самародныя мастакі слова: расказчыкі і гумарысты. Аж дзіву даюся, чаму да гэтага часу мы не заняліся імі, не стварылі ім магчымасці выяўляць свае здольнасці на мясцовай гаворцы са сцэны перад значна шырэйшым колам слухачоў, чым на вяселлях, хрысцінах ці так сабе — у святочны дзень у грамадзе, сабранай на вясковай вуліцы. Гэтых умельцаў якраз і не хапае нашаму самадзейнаму мастацкаму руху. І хоць тут маем дачыненне з саланаватым ды нават гуллівым жартам, але неабходна гэтай справай заняцца зараз жа і ўсур'ёз, не адкладаючы яе на потым.

Не будзем таіць, што рознага роду выступленням нашых самадзейнікаў не хапае вельмі важнага элементу, а іменна — танца. А ў народзе ён жа не забыўся! Дзе-нідзе яшчэ і цяпер нашыя старэйшыя вясковыя танцоры на розных гуляннях выкручваюць такія полькі-трасухі з падскокамі ды галубцамі, што аж дух у грудзях займае! Не пайшлі ў няпамяць і розныя крыжачкі, мяцеліцы і іншыя танцы. Значыць, і гэтым відам народнага мастацтва неабходна заняцца, прыгадаць, адшліфаваць і вывесці яго на сцэну.

Увесь час мы дзівуемся, чаму з рэпертуару нашых тэатральных калектываў не сыходзяць несмяротныя „Мікітаў лапаць“, „Пярэстая красуля“ ці „Боты“, а драмгурткі зусім не спяшаюцца ставіць больш сучасныя п'есы, якія прапануе БГКТ. Прычына тут у тым, што тэатральныя калектывы патрабуюць твораў з жвавым дзеяннем і дыялогамі, зразумелых кожнаму гледачу, насычаных гумарам і камізмам, з невялікай колькасцю дзеючых асобаў. Мы ж ім прапануем расцягнутыя

(Працяг на стар. 2)

## ЛЮДЗІ БГКТ

# Вінцук Склубоўскі



Усё сваё жыццё ён прысвяціў вучобе, службе справядлівасці і грамадскай працы.

Як большасць прадстаўнікоў старэйшага пакалення беларускай інтэлігенцыі, паходзіць Вінцук Склубоўскі з сялянскага асяроддзя. Нарадзіўся ён у 1911 годзе ў вёсцы Малышкаўшчына, што на Ашмяншчыне. У бацькоў было тры гектары слабенькай зямлі ды дзевяцёра дзяцей на ўтрыманні. Нясоладка жылося гэтай сямейцы: хто толькі падрастаў, адразу ішоў да багатых гаспадароў у парабкі. Калі Вінцук пайшоў у школу, свет, адчынены перад ім вучобай, цалкам запаланіў хлапечае ўражлівае сэрца. За дзве зімы ён закончыў чатыры класы ў сваім сяле і падаўся ў сямігодку ў мястэчка Гальшаны. І хоць даводзілася яму наведваць урокі ўсяго ад пакровы і да вялікадня, ён не толькі паспяхова пераходзіў з класа ў клас, але належаў да самых лепшых вучняў у школе. Здольным і працавітым хлопцам заапекавалася кіраўнік школы З. Дважэцкая і дапамагла яму ўладкавацца ў віленскай гімназіі. Зарабляючы на сваё ўтрыманне заняткамі з дзяцьмі заможных вільнян, ён канчае гімназію, а затым паступае на факультэт права Віленскага універсітэта, які заканчвае ў 1939 г. І будучы студэнтам распачаў сваю палітычную дзейнасць. Увайшоў у блізкія сувязі з прадстаўнікамі беларускага і польскага прагрэсіўнага руху ў Вільні, у тым ліку з Рыгорам Шырмам і Максімам Танкам. У 1935 г. уступіў у Таварыства беларускай школы.

— Гэта быў вельмі цяжкі час, — успамінае В. Склубоўскі. — ТБШ перажывала крытычны момант. Дэфензіва і паліцыя разграміла большасць гурткоў, многія дзеячы былі арыштаваны. Неабходна было адрадзіць арганізацыю, правесці з'езд і ўдыхнуць у яе рады новыя сілы. Але таксама вядома было, што легальны з'езд разгроміць паліцыя, а за арганізаванне нелегальнага з'езду пагражала афіцыяльнае закрыццё арганізацыі санацыйнымі ўладамі ды масавыя арышты. Вось мы пайшлі на хітрасць: з'езд склікалі ў Вільню і дэлегатам паведамілі аб месцы яго працы, уладам жа выслалі паводле абавязваючых прадпісанняў паведамленне аб з'ездзе, але не ўказалі месца яго працы. Такім чынам з'езд быў і легальны і нелегальны. Ён удаўся, абнавіў арганізацыю, уліў у яе членаў запал да працы.

На з'ездзе В. Склубоўскі быў выбраны старшынёй Цэнтральнага гуртка ТБШ у Вільні і членам Галоўнага праўлення арганізацыі. Ён вядзе актыўную арганізацыйную дзейнасць, змяшчае артыкулы ў органе ТБШ „Беларускі летапіс", піша, між іншым, аб Кастусю Каліноўскім. Адначасова таварышы з КПЗБ даручаюць яму ў канцы 1935 г. вельмі важныя абавязкі галоўнага і адказнага рэдактара легальнай газеты Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі „Наша воля".

У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пра „Нашу волю" чытаем, што яна „выступала супраць фашызацыі грамадскага жыцця буржуазнай Польшчы, прапагандавала праграмныя і тактычныя лозунгі народнага фронту, змяшчала матэрыялы пра забастоўкі рабочых, артыкулы на абарону беларускай нацыянальнай культуры, мовы, друкавала творы беларускіх пісьменнікаў — М. Танка, М. Васілька, М. Засіма, М. Машары, А. Іверса" (т. VII, с. 462).

У часе гітлераўскай акупацыі В. Склубоўскі быў вывезены на прымусовую працу ў Германію. Вызвалення Савецкай Арміяй ён дачакаўся ў Вроцлаве і адразу паступіў на працу ў Вроцлаўскім апеляцыйным судзе. Потым ён працуе ў судах у Тшэбніцы, Новай Солі, Гажове Вялікапольскім, Зялёнай Гуры, Любліне. У 1957 г. В. Склубоўскі прыязджае ў Беласток і з таго часу па сённяшні дзень працуе ваяводскім суддзёй у Беластоку.

Адразу пасля прыезду ў Беласток В. Склубоўскі наладзіў сувязь з БГКТ і „Нівай". Пачаў выкладаць гісторыю Беларусі на аддзяленні беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі, напісаў цыкл гутарак па гісторыі Беларусі для беларускіх перадач Беластоцкага радыё, у „Ніве", альманахах „Белавежа" і беларускіх календарах паявіліся яго цікавыя артыкулы і апавяданні. Ад пачатку студзеня 1958 г. і па сённяшні дзень В. Склубоўскі рэгулярна, кожны панядзелак, у грамадскім чыне, бясплатна праводзіць у памяшканні БГКТ, на вул. Варшаўскай 11, юрыдычныя кансультацыі для насельніцтва Беласточчыны. На працягу 18 год гэтай самаахвярнай дзейнасці ён ужо даў дзесяткам тысяч людзей каштоўныя праўныя парады.

V з'езд БГКТ выбраў яго членам Галоўнага праўлення і старшынёю нашай арганізацыі. На гэтай грамадскай пасадзе ён працаваў з 1967 па 1970 г.г. і ўнёс вялікі ўклад у дзейнасць нашага таварыства. І цяпер В. Склубоўскі з'яўляецца членам Галоўнага праўлення БГКТ.

В. Склубоўскі ўзнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі, медалямі X-годдзя ПНР і 1000-годдзя Польшчы, знакам „Заслужаны для Беласточчыны" і іншымі.

**Мікалай Гайдук**



**У ШКОЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ**

*Даволі багаты кнігазбор і шмат часопісаў мае бібліятэка ў Беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім. Вучні ахвотна прыходзяць сюды на практычныя заняткі, якія вядзе настаўніца Зінаіда Красоўская.*

**Фота Я. Цялушэцкага**

## АДГАЛОСКІ

# Мой ліцэй, мой клас...

Зусім выпадкова трапіў мне ў рукі № 6 „Нівы" з артыкулам „Калі ласка, у наш ліцэй!". У Варшаве за „Нівай" ісці трэба ў „МПіК", не купіш яе ў кіёску „Рух", таму і гавару, што выпадкова прачытала я гэты артыкул пра Бельскі беларускі ліцэй. А, прачытаўшы яго, я глыбока задумалася. Гэта ж некалькі месяцаў прайшло з таго часу, калі дзяліла я сваё жыццё з жыццём ліцэя. І вось цяпер, калі прыедзеш з ВНУ (вышэйшая навучальная ўстанова — рэд.) дамоў і ідзеш з поезда горадам, паглядзіш на стройны будынак ліцэя, цябе туды штосьці цягне, хочацца ўвайсці ў сярэдзіну, пагутарыць з добра знаёмымі людзьмі, з моладдзю, з педагогамі.

Успамінаць можна доўга, аднак было ў гэтым артыкуле штосьці, што мацней закранула мяне. Рэч у тым, што было тут некалькі слоў пра слаўны IVa клас у гэтым ліцэі. Каб выявіць усю таямніцу, скажу, што гэта ж мой клас! Дружная сям'я, якая 5 чэрвеня 1975 года атрымала атэстат сталасці, пакінула муры дарагой падружкі і пайшла таптаць сцежкі-дарожкі ў будучыню. У гэты ж сонечны дзень дырэктар, выпускаючы ў вырай 100-асабовую грамадку нас — абітурыентаў, сказаў, што IVa клас — гэта найлепшы клас у 30-гадовай гісторыі ліцэя, равесніка Народнай Польшчы. Гэтыя словы з пажаданнямі педагогаў, каб пашчаслівілася нам на дзяржаўных экзаменах, каб нам заўсёды ў жыцці веялі спрыяльныя вятры, падтрымалі нас. Мы добра ведалі, што чакае нас намнога важнейшы экзамен у ВНУ. Ведалі мы, што там трэба будзе прадаваць свае веды зусім незнаёмым людзям і трэба, каб яны былі намі задаволены, каб захацелі нас мець у сябе як студэнтаў.

Каб атрымаць урачыстае званне найлепшых, трэба было многа і добра працаваць ад самага пачатку навукі ў ліцэі, ад таго часу, калі 2 верасня 1972 года празвінеў галасісты электрычны званок, сігнал пачатку школьных заняткаў, а для нас, тады першакласнікаў, сігнал пачатку навукі ў ліцэі.

У першым класе сустрэліся мы, маладыя людзі з розных, далейшых і бліжэйшых мясцін і школ, з моладдзю горада Бельска. Гэтай групе моладзі, якая закончыла пачатковую школу № 3 у Бельску Падляшскім — суседку ліцэя, усё ў ліцэі было бліжэйшым, а тым, што прыйшлі вучыцца сюды з вёскі Парцава, Кнарыдаў, Пілікаў, Орлі, Сакоў (гайнаўскіх), Маліннікаў, Кашалёў, Цялушкаў, Трасцянкі і іншых вёсак, усё тут было новым, чужым, незнаёмымі былі твары педагогаў. Было ім радасна і нечага боязна — вядома, першы раз у сярэдняй школе. Але хутка з'явіўся агеньчык дружбы. Мы хутка пазнаёміліся, стварылі дружную сям'ю. Завязалася між усімі шчырая, моцная дружба, а ў след за ёю радзілася ўсё большая ахвота да навукі.

На працягу 4-гадовай вучобы ў ліцэі панавала ў нашым класе здаровае спаборніцтва — а хто з нас лепшы? Яно прымушала нас вучыцца ўсё больш і больш, каб задаволены былі з нас настаўнікі, а ў дзённік, які з'яўляецца люстэркам, дзе ўбачым кожнага вучня паасобна, было прыемна паглядзець і настаўніку, і дырэктару, і нашым бацькам. У часе нашага побыту ў ліцэі мы заўсёды кіраваліся заклікам У. І. Леніна: „Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца".

Калі камусьці з нас у нечым не павязло, іншыя стараліся яму памагчы, накіраваць у каляіны добрага школьнага жыцця. Калі хтосьці вёў сябе не так, як павінен рабіць гэта добры вучань, вучань белліцэя, уключаліся таварышы і выводзілі яго на правільны шлях. Толькі дзякуючы добрай навуцы ніхто з нас не расчароўваўся ніколі ў канцы навучальнага года. Не здарылася нашай згоднай сям'і, каб кагосьці пакінуць ззаду па дарозе ў будучыню. У нас не было слабенькіх, усе шпарка крочылі наперад.

Наш звычайны, тыповы, шэры бу-

(Працяг на стар. 4)

# БЕРАГІ ГРЫМЯЧАЙ РАКІ

Дзякуючы зычлівасці, сардэчна прыхільным адносінам сяброў у Савецкай Беларусі да нашага літаратурнага руху ў Польшчы, у 1973 годзе ў Мінску быў выдадзены альманах „Літаратурная Беласточчына". І хіба ў добры час, бо зусім нядаўна тое ж Мінскае выдавецтва выпусціла ў свет ужо другую кніжку — А. Барскага „Мой бераг"*). Неўзабаве на кніжных паліцах паявіцца трэці паэтычны зборнік „белавежца", на гэты раз Віктара Шведа. Мейма надзею, што і трэці не будзе апошні.

Мы ведаем ужо А. Барскага па кнігах лірыкі „Белавежскія матывы" і „Жнівень слоў", па шматлікіх паэтычных публікацыях на літаратурнай старонцы „Нівы", календарах і іншых беларускіх выданнях ў Беластоку. Як паэт ён вельмі пладавіты. Эксплуататар сваёй біяграфіі, ён умее захабарыць чытача каскадам эмоцый і мімалётных рэфлексій. Як чалавек, якога мы ведаем, ён дасціпны сябра, прадпрыемлівы і энергічны грамадскі дзеяч, настойлівы аратар і вялікі жыццялюб-сейбіт.

А. Барскі — таленавіты вясковы хлапец, які, здабыўшы высокую адукацыю і пасаду ў горадзе, душою імкнецца ў вёску, вёску свайго дзяцінства і юнацтва. Ён любіць тую вёску забойча. Платанічна і руссаістычна. Любіць яе як антытэзу горада, у якім яго прыватнае жыццё дало трэшчыну, і дзе-нідзе абсельыя сцены адкрылі перспектыву суму вечнасці і мужчынскай адзіноты. Любіць тую вёску, бо гэта ні што іншае, як пошукі сваёй айчыны, радаслоўні, сябе самога. Ад захаплення краявідам, у якім паэт вырастаў і які быў яго айчынай, ён штораз сходзіць на інтымныя размовы аб сваім жыцці. І з гэтай прычыны Барскаму — чужая сённяшняя вёска, якая пайшла наперад, наблізілася да горада, пераняўшы яго моды і выгоды. Вось таму загубленаму паміж горадам і вёскай паэту наймілейшыя поле і лес, той прастор, у якім разам з порамі году арганічна ўпісаны вечныя тэмы чалавечага існавання: каханне, мацярынства, праца, смерць.

Горад для паэта — гэта сінонім пагоні за кар'ерай, гэта ўзыходжанне па службовай лесвіцы, якая не вядзе нікуды, гэта глянц паркетаў, па якіх ходзяць людзі-маскі, людзі-скамарохі. Горад — гэта таксама дыктатура логікі, разліку, карысці, што і прымусіла людзей вынайсці агонь, атруту і бомбу. Горад у творчасці Барскага — гэта запярэчанне чалавека. І таму цывілізацыя і прырода, горад і вёска, думка і эмоцыя — гэта дзве супрацьлеглыя сілы, раздзіраючыя паэта, фарміруючыя яго творчую асабовасць. І каб астацца самім сабою, паэт супрацьстаўляецца ўсяму свету. Вось чаму самым істотным і пастаянным канфліктам паэтычнай творчасці Барскага ёсць канфлікт паміж яго дамінуючым „я" і светам.

Паміж гэтымі двума берагамі грыміць рака стыхійнай унутранай барацьбы. Гэта горан, з якога выстрэльваюць языкі развіхранай думкі. Тым трэба тлумачыць, што ў раней выдадзеных зборніках так многа супярэчлівых паэтычных веравызнанняў, такое самапаўтарэнне, такая разбуханасць і жар пачуццяў, што ўсё гэта магло б змахваць на нейкі манерызм, ці гаварыць аб бяссільнасці аўтара, аб немагчымасці запанаваць над хаосам рэчаіснасці і сваім унутраным светам**).

Але ёсць вершы, якія сведчаць, што Барскі хоча стрымаць падводнае цячэнне супярэчнасцей, якое яго зносіць у вір штодзённасці; што вельмі хоча даплысці да берага сваёй Аркадыі. Гэтае адольванне адбываецца шляхам ідэалізацыі вёскі, звароту да краявіду, нерухомасці, нязменнасці, вечнасці. Праз паэтызацыю прыроды, у якой бачыць паэт хараство, гармонію, дасканаласць — і ёй зайздросціць і хоча з ёю аб'яднацца. І ў дасягненні гэтай мэты служыць паэту вясло паэзіі і лодка паэзіі.

Перамаганне ўнутраных канфліктаў і дысгармоніі са светам адбываецца таксама праз зварот да кахання. Бераг Аркадыі! О, каб хутчэй да яго прычаліць: там жа адзінай (і надзейнай) формай кантакту паміж

(Працяг на стар. 5)

# Сярод дружнай моладзі

Моладзь з Тыневіч Малых (гміна Нараў) цесна звязана з клубам „Рух“ у сваёй вёсцы. Не сядзець жа цэлы доўгі зімовы вечар дома! А ў клубе заўсёды дзеецца штосьці цікавае. Сюды прыходзяць дзяўчаты і хлопцы глядзець тэлеперадачу, паслухаць любімыя песні з грампласцінак або з магнетафоннай стужкі. Кіраўнік клуба Софія Асташэўская кожнаму параіць пачытаць, а то і купіць свежы нумар нашага тыднёвіка „Ніва“, якога разыходзіцца тут штотыдзень 15-20 экземпляраў. У клуб прыходзіць моладзь на забавы, нават вясельныя забавы модныя цяпер у клубе. Тыневіцкі клуб наведвалі шматлікія беластоцкія пісьменнікі, журналісты, акцёры, ветэраны другой сусветнай вайны і іншыя цікавыя людзі. Сведчаць аб іх пабыўцы не толькі ўпісы ў клубную хроніку, яны надоўга астаюцца ў памяці тыневічан. Цікава праходзяць тут дыскусійныя вечары, прысвечаныя тэлевізійным фільмам. Выступалі тут з канцэртамі мастацкі калектыў з Нарвы, драматычны самадзейны гурток з Крыўца і іншыя. Тыневічане таксама не ў даўгу. Ездзілі яны з песнямі і скетчамі ў Клейнікі, Даратынку, Крывец. Нічога тады дзіўнага, што ў тыневіцкі клуб ахвотна прыходзіць моладзь з Істока, Слівова, Рацькаў.

Тыневіцкая моладзь дружная і ахвотная да грамадскай дзейнасці. Тутэйшыя дзяўчаты і юнакі заўсёды дапамагаюць пажылым аднасяльчанам пры ўборцы збожжа. За сваю працавітасць і гатоўнасць дапамагчы кожнаму ў любой бядзе моладзь атрымала высокую ацэнку кіраўніцтва Ваяводскага праўлення ЗСМВ у Беластоку. Маладзёжныя ўлады ўзнагародзілі яе фотаапаратам, ганаровым сцяжком і дыпломам.

Нялёгка было б пералічыць усе грамадскія пачыны маладых тыневічан. Яны працавалі амаль усюды. У мінулым годзе 25 асоб працавала пры пабудове дарогі з Нарвы ў Адрынкі. Цяпер прыемна і зручна па ёй ехаць.

Яшчэ адзін прыклад. У мінулым годзе пажылы селянін Антон Сахарчук з вёскі Істок не паспеў у пару выкапаць бульбу. Бульба стаяла ў полі, а тут настаі маразы. Істоцкаму селяніну тэрмінова была патрэбна дапамога. За ёю звярнуўся да маладых дзяўчат і юнакоў Ян Асташэўскі, сакратар мясцовай партыйнай арганізацыі. Трактар і бульбакапалку ўзяў з сельскагаспадарчага гуртка трактарыст Мікалай Дудзік. З ім выйшлі ў поле Галіна Свентахоўская, Зіна Дудзік, Марыя Свентахоўская, Галена Ахрымюк, Валя Асташэўская і другія. Выкапалі ўсю бульбу. 70 мяшкоў.

Вось яна, тыневіцкая моладзь!

Многа моладзі вучыцца і працуе ў Беластоку, Бельску Падляшскім, Гайнаўцы. У сваю родную вёску Тыневічы прыязджаюць аднак кожную суботу або нядзелю, а ўжо абавязкова на святы. Тады і адбываецца ў клубе найбольш цікавых культурных мерапрыемстваў.

**Я. Цялушэцкі**

## Мой ліцэй, мой клас...

(Працяг са стар. 3)

дзень — гэта працавіты дзень. Аднак не жылі мы адной навукай. Навука перш за ўсё, але арганізавалі мы і паездкі ў беластоцкі тэатр імя Вянгеркі, і супольны агляд фільмаў у бельскім кіно „Зніч“. Сапраўды ўрачыстая, прыемная атмасфера была ў нас на кожным школьным свяце.

У добрую арганізацыю жыцця ў класе, у апеку над намі на працягу 4-х год многа працы і сэрца ўкладала наша выхавацельніца пані Галена Стэпанюк. Яна залаты чалавек, асоба з вельмі чулым сэрцам, умела зразумець кожнага выхаванка, старалася ў меру магчымасці кожнаму памагчы.

5 чэрвеня 1975 года мы выйшлі з ліцэя з ціхім абяцаннем, што ніколі пра школу і яе педагогаў не забудзем.

Успамінаць ёсць што. Гэта ж 4 гады нашага жыцця, ды гады найбольш цікавыя — 15-ты, 16-ты, 17-ты і 18-ты — калі сталі мы паўнапраўнымі грамадзянамі нашай айчыны — Народнай Польшчы. Работы хапала, а на дадатак яшчэ ў матэматычна-фізічным класе, з пашыранай праграмай матэматычных прадметаў; а гісторыі, геаграфіі, астраноміі, хіміі, біялогіі, польскай, рускай і беларускай моў таксама нельга ж было адлажыць на бок.

Трэба было працаваць многа, але цяпер, калі ты ў вышэйшай установе, задавальненне яшчэ большае.

Вялікае дзякуй усім педагогам Бельскага беларускага ліцэя ад выпускнікоў 1975 года.

**Эльвіра**



# Лясная быль

ФОТАРЭПАРТАЖ К. СВІДЭРСКАГА.





## Гадзіна ў Сібіры

Наколькі верна адлюстроўвае мая памяць мінулае, то не памятаю, каб у Саках, тых што на Бельшчыне, адбылася нейкая сустрэча з пісьменнікам, ці з навуковым працаўніком, ці з падобнымі людзьмі. Апрача сходаў на гаспадарчыя тэмы ніякія другія сустрэчы не адбываліся. Хіба што ў Пасынках у школе. Але хто ж туды пойдзе, асабліва са старэйшых. Напрацуецца чалавек за цэлы дзень, то дзе ж яму захочацца два кіламетры пехатой трапаць... Рэч іншая, каб у сваёй вёсцы. На месцы. І вось 19 лютага наведаў гэтую вёску вядомы паэт, кіраўнік беларускай філалогіі ў Варшаве др Аляксандр Баршчэўскі.

6 гадзін вечара. Усе з увагай глядзяць на той столік, за якім сядзіць госць, і чакаюць пачатку. І раптам з гэтай цішыні чуваць голас А. Баршчэўскага. Не, гэта не была аўтарская сустрэча. Гэта быў расказ-успамін аб падарожжы ў Сібір, які вельмі ўздзейнічаў на слухачоў. Зразумелая рэч! Ніводзін жа з іх не быў у Сібіры. Глянуў я на жыхароў вёскі і ўбачыў, што ўсе яны як адзін перамяшчаюцца думкамі разам з расказчыкам з месца на месца гэтай казачнай краіны. Пазнаюць яе тайны. Расказ быў такі вобразны, што сапраўды нельга было не зразбіць гэтага дзіўнага падарожжа. А потым пачаліся пытанні. Кожнага нешта цікавіла. Каго выгляд дамоў, каго прырода, каго гаспадарка, а каго прамысловасць.

Шкада, што такія сустрэчы ў Саках з'яўляюцца рэдкасцю. Мне здаецца, што можна было б іх наладжваць часцей. Ёсць жа розныя маладзёжныя арганізацыі. Маглі б паклапаціцца пра гэта. Была б гэта вялікая карысць і старэйшым і маладым.

(М. Ш.)

## ГРОДНА — БЕЛАСТОК

Ужо трэці год беластоцкі вясковы гандаль вядзе абмен неабходных у паўсядзённым жыцці тавараў з гандлёвымі ўстановамі Гродна. Замежным суседзям ВЗГС у Беластоку высылае ў асноўным трускалкі, вопратку, абутак. Узамен за гэта на наш рынак паступаюць сельскагаспадарчыя прылады, стружкавыя пліты, кансервы, сінтэтычныя фіранкі, настольны керамічны посуд, цацкі.

На мільён рублёў у год. (ця)

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XII

**Пейзажныя вершы.** Разглянем апошнюю катэгорыю пейзажнай лірыкі Гартнага. Гэта вершы, у якіх паказаны поры года або поры дня. Да такіх твораў трэба залічыць вершы: „Восенню“, „Ізноў вясна“, „Мілы мне бясконца“, „У дарозе“, „Узышоў месяц“.

Верш „Восенню“ — гэта твор, тыповы для пейзажнай лірыкі Гартнага. Праяўляецца ў ім характэрны для Гартнага прыём сужыцця фатаграфічнасці і эмацыянальнасці. Гэта значыць, што аўтар з аднаго боку аб'ектыўна ілюструе пэўныя з'явы, выступаючыя ў асеннім пейзажы, а з другога боку выяўляе свае суб'ектыўныя адчуванні і рэфлексіі.

У вершы „Ізноў вясна“ прапорцыі паміж аб'ектыўным і суб'ектыўным раптуча мяняюцца. Амаль ва ўсіх папярэдніх пейзажных творах Гартнага дамінавалі апісанні аб'ектыўных фактаў над суб'ектыўнымі разважаннямі. Гэта значыць, што прырода мела тут перавагу над лірычнымі рэфлексіямі. У вершы „Ізноў вясна“ маем дачыненне з адваротнай сітуацыяй. Тут веснавы пейзаж з'яўляецца па сутнасці толькі пралогам, які паэт выкарыстоўвае да выяўлення сваіх унутраных перажыванняў. Пад уплывам вясны ў душы і целе паэта праяўляецца дынаміка, задор, гатоўнасць да змагання. Цікавая ў вершы анімізацыя, адухаўленне вясны. Паэту здаецца, што вясна, як жывая істота, вядзе з ім размову, кліча яго да шчасця і волі.

Пяройдзем да верша, прысвечанага розным порам дня. Верш „Мілы мне бясконца“ напісаны паслядоўным рытмічным радком і дасканала перадае вячэрні настрой: цішыню, задуменне пейзажу, адзінства чалавека і прыроды.

*Мілы мне бясконца,*
*Любы тыя хвілі,*
*Калі сонца ў небе*
*Падыходзе к гаю*
*І у бачным воку,*
*Сінім небасхіле*
*Ўкрадкаю Венера*
*З неба мне міргае.*
*На лугах зялёных*
*Траўка не шахнецца,*
*Ветрыкам нізвання*
*Ніадкуль не вее,*
*Толькі, як ні глянеш,*
*Вока дзе ні мкнецца —*
*Жыта ядраное.*

Чытаем гэты верш, і здаецца нам, што паэт злавіў яго ў ліпнёвым паветры або ўзняў з нагрэтай сонцам зямлі. Здаецца, што ўсё прадстаўленае мы бачым тысячы разоў і што мы падобным чынам хацелі б выразіць настрой адвячорка. У гэтым і заключаецца сіла паэтычнага ўздзеяння. Верш характэрны і тым, што ў ім выступае ілюстрацыя зямной і надземнай прыроды. У пачатку верша аўтар гаворыць аб надземных з'явах: аб сонцы, небасхіле, Венеры. Пасля пераходзіць да зямнога пейзажу. У перадапошняй частцы твора вядзецца гаворка аб паветры і песні птушкі. У канцы, згодна з сваім улюбёным прыёмам паэт выяўляе суб'ектыўныя настроі.

Верш „У дарозе“ прысвечаны ночы. Мае ён характар апавядання. Пісьменнік знаёміць нас з падарожжам, якое праводзіць ён з рамізнікам. Элементы апавядання — гэта характарыстыка начнога пейзажу, начнога зорнага неба, коней і рамізніка, які спявае песню. Верш не мае вытрыманай паслядоўнай рытмікі і гэта адбіваецца адмоўна на яго мастацкай вартасці.

Два апошнія вершы „Узышоў месяц“ і „Над палянаю“ маюць паслядоўна фатаграфічны характар. Адступае ў іх аўтар ад суб'ектыўнай рэфлексійнасці, ад лірычных дыгрэсій. Ілюструе начны пейзаж і больш нічога. Ёсць тут толькі глядач, які з прыкрыцця прыглядаецца прыродзе. Варта падкрэсліць, што і ў гэтых і ў некаторых раней прадстаўленых вершах аўтар неўласціва апераруе начнымі колерамі. Гаворыць ёй аб „чыстых ручаёчках“, аб „зелені“ лісточкаў, якая адбіваецца ў „сінім“ небе.

Справа ў тым, што ноччу кожная, нават найчысцейшая вада здаецца бурай, зялёныя лісты цёмнымі, а сіняе неба чорным. Такім чынам, каларыстыка начных вершаў Гартнага не можа не выклікаць прэтэнзій. Не гэта аднак важнае. Паэт можа фантазіраваць. Зрэшты, і гэта мабыць найважнейшая рыса вячэрніх і начных вершаў Гартнага, усе яго творы ўтрыманы ў светлым аптымістычным настроі. Адсутнічае ў іх баладнасць — страхі і жахі трывогі, дамінуе настрой мірнага і прыязнага сужыцця паэта і прыроды.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля смерці бацькі асталася сельская гаспадарка, якая складаецца з 9 га зямлі. Гаспадарку апрацоўвае сын, які незалежна ад гэтага працуе на чыгунцы. Гаспадарка лічыцца занядбанай, хаця дзяржаўныя належнасці рэгулярна плацяцца. Сястра яго жыве на гаспадарцы свайго мужа, якая складаецца з 8 га. Павятовыя ўлады ў час рэгуляцыі сельскай уласнасці вырашылі, што спадчынная гаспадарка з'яўляецца супольнай уласнасцю сына і дачкі спадкадаўцы. Дачка хоча падаць у суд на падзел гаспадаркі. Жонка сына мае таксама 4 га. Як суд можа падзяліць у гэткай сітуацыі гаспадарку? Ці можа прыдзяліць цэлую гаспадарку дачцы?

АДКАЗ: Калі брат і сястра не падзеляць згодна гаспадарку, то аб спосабе падзелу вырашыць суд. У першую чаргу суд прыдзяляе гаспадарку таму, хто перад падзелам спадчыны на ёй працаваў. Аднак, беручы пад увату, што гаспадарка занядбаная, суд можа справу вырашыць інакш, а менавіта можа нават цэлую гаспадарку прыдзяліць сястры, калі яна з сваім мужам добра гаспадарыць на сваёй гаспадарцы. Спадчынная гаспадарка можа быць таксама падзелена. Паколькі жонка брата мае 4 га, суд можа выдзеліць яму са спадчыны частку не меншую, чым другія 4 га, так, каб ён меў не менш 8 га (гэткая паверхня лічыцца асноўнай нормай для сельскай гаспадаркі). Астатняя частка можа быць прысуджана яго сястры.

## Вер-не-вер

Сніцца мне, што іду я па нейкай прыгожай мясцовасці. Я іду дарогай, а вакол мяне нейкія невялікія пагоркі, прыгожыя, дзе-недзе парослыя дрэвамі і кустамі. На пагорках відаць разоры і людзі, якія выбіраюць бульбу. І тая бульба ўсюды, бачу яе на разорах выразна. Тваю рубрыку, Астроне, я чытаю даволі дакладна. Але пра бульбу не было, праўда? Што ж гэта можа абазначаць?

Міша з Беластока

Прысніўся мне сон, што я лячу самалётам. Праз некалькі мінут самалёт пачаў прызямляцца, і я апынулася на зямлі. Я была апранута ў вельмі прыгожую светлую сукенку. На зямлі я доўга не затрымалася і праз нейкі час я зноў адляцела з зямлі, толькі дакладна не ведаю, чым. Што гэта значыць?

Ірка

Снілася мне цэлая гара падушак, што былі ўложаны на ложку. Ці не прадвяшчае гэта хваробу? Старыя людзі кажуць, што гэта нядобра...

А. Б.

Снілася мне, што ела я капусту, вараную. Наліла ў талеркі і ела. Што гэта такое?

Л. А.

Адказваю па парадку. Першы сон. Чакае вас пэўны прыбытак. Бульбу бачыць ці есці — прыбытак, добры ўраджай.

Другі сон. Лётаць над зямлёй (чым — не мае значэння) абазначае спаўненне надзеі, поспех у справах і каханні. Ваша светлая сукенка яшчэ больш пацвярджае гэта.

Трэці сон. Вашы падушкі гавораць аб тым, што вы вельмі стомлены і агарнула вас апатыя. Трэба адпачыць!

Чацверты сон не прадвяшчае нічога добрага. Капуста заўсёды абазначае нейкія сямейныя непрыемнасці, хваробу ці страту.

**Астрон**

## ЧАЛАВЕК З ЛЕГЕНДЫ

**Пад такім загалоўкам пачнем неўзабаве друкаваць нарыс пра легендарнага беларускага партызана Муху-Міхальскага.**

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, калі закончыла я пачатковую школу, бацькі сілком хацелі мяне ўвапхнуць у сельскагаспадарчую школу. Але праца на гаспадарцы ніколі мяне не цікавіла. І наперакор бацькам распачала я вучобу ў ліцэі. І там пазнаёмілася з Юркам. Спатыкаліся вельмі часта. Бацькі нічога не ведалі. Так мінула чатыры гады. Я пайшла далей вучыцца ў паматуральную школу. Закончыла яе і атрымала працу ў Беластоку. Юрка таксама працуе тут, у яго ўласная кватэра. І мы ўжо хацелі пажаніцца. Але бацькі і слухаць аб гэтым не хацелі. Калі я яшчэ вучылася, яны ўжо выбралі мне кандыдата на мужа — хлопца, які мае добрую гаспадарку. А я ў ніякім выпадку не хачу працаваць на гаспадарцы, да таго жыць з чалавекам, які мне зусім не падабаецца. Я ж маю хлопца, якога кахаю і ён мяне таксама кахае. Як паступіць, каб бацькі зразумелі мяне?

Бася з Бельшчыны

Сапраўды, справа нялёгкая. Бацькам здаецца, што так, як яны табе раяць, будзе найлепш. А ты вось пагавары з імі, старайся пераканаць, што якраз табе будзе лепш так, як ты думаеш уладзіць сабе жыццё; ты ўжо дарослая і сама сабе выбрала хлопца на мужа, так, як і школу. Ужо мінулі тыя часы, калі бацькі жанілі сваіх дзяцей, так як хацелі самі, нярэдка нават і не пытаючыся ў іх. Думаю, яны зразумеюць, і ўсё ўладзіцца.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў



### Як цябе бачаць, так цябе пішуць

**ЛЕТНІЯ СУКЕНКІ**

Як ні круці, а трэба ўжо пачынаць думаць пра лета. Бо, як кажуць, пакуль суд ды справа, дык і лета будзе на носе, і тады позна ўжо будзе бегаць у пошуках матэрыялу ці модных фасонаў. А пакуль яшчэ краўчыха пашые, дык і восень надыйдзе. Дык аб летніх сукенках прапаную падумаць ужо цяпер.

На нашых здымках вы бачыце сукенкі для паўнейшых жанчын. Трэба памятаць заўсёды, што тое, што моднае, не заўсёды бывае да твару, узросту, фігуры. Сённяшняя, вельмі жаночая, мода (розныя фальбанкі, закладкі, зборачкі, карункі, клёш) можа ў некаторых выпадках аказацца вельмі небяспечнай.

Таму трэба заўсёды памятаць, што мода паказвае толькі напрамак, стыль, дамінуючы ў даны момант у вопратцы. А ўжо толькі ўменне падабраць сабе адпаведныя мадэлі і дадаткі сведчыць аб добрым гусце жанчыны.

І таму якраз паўнейшыя жанчыны ўсе модныя сёння элементы павінны прымяняць з вялікім умеркаваннем, бо інакш яны могуць не толькі не ўпрыгожыць, але нават і асмяшыць жанчыну.



Не значыць гэта зусім, што поўныя жанчыны павінны цалкам адмовіцца ад модных рэчаў. Гляньце на здымкі. Усе мадэлі прадугледжаны для жанчын не худых, а ўсё ж ідуць у пары з модай. Ніз сукенкі крыху пашыраны, прыменены вельмі модныя ўстаўкі з карунак і вышыванай аплікацыі, модныя каўнерыкі.

**Сяброўка**




Не, узяць хлопцаў тут было не так лёгка. Усё ж яны былі прыхаваныя невялічкімі снегавымі ўзгоркамі ля сцірты, якія затулялі ад прыцэльнага агню. А ворагі відны былі як на далоні, ні аднаму з іх не было дзе схавацца. Калі б у гэтае тройкі было болей патронаў, дык, мусіць, яны б яшчэ адбіліся.

Але патронаў было вельмі мала для такой бойкі, і праз нейкі час Цімошкін ажно спалохаўся, падумаўшы, што магазін, мабыць, ужо апусцеў. Шчарбак таксама перастаў страляць. У наваколлі крыху пацішэла, толькі з боку ворага нейкі аўтамат сыпаў усюды кулі — у снег, у сцірту, недзе ў паветра над імі. Засмярдзела дымам — гэта ў сцірце, якраз у падстрэшку, дзе яны нядаўна хаваліся, нешта курылася, і вецер круціў, слаў у доле горкі смярдзючы дым.

— Валодзька! — гукнуў з дыму Шчарбак. — Дзе пісар?

Цімошкін крыху прыўзняў галаў і ўслухаўся, але за сціртай нічога не было чуваць — ніякага руху, ні стрэлаў — мусіць, нешта там здарылася. Праўда, хлопец і цяпер не вельмі шкадаваў Грышку — але ж у такі час патрэбны быў і Блішчынскі. Шчарбак, пэўна, ужо адышоўся ад нядаўняе злосці і цяпер клапаціўся і аб гэтым абаронцы.

— Споўзай туды: можа, паранілі, — усё моршчачыся ад болю, сказаў ён.

Сцірта ўсё болей дыміла, але агню не відаць было. Немцы ляжалі ў полі, нехта з іх ланцуга, мабыць паранены, папоўз да дрэўцаў, раз-пораз патрэсквалі аўтаматы. Падхапіўшы ля каня сваю зброю, Цімошкін паўзком пад сціртай падаўся на той бок, да Блішчынскага.

На локцях і каленях ён запоўз за сцірту, тут здалося хлопцу трошкі зацішней, і можна было прыўзняцца. У той час штось нечакана рванула на галаве яго шапку, яна тузанулася і налезла на самае вуха. Цімошкін азірнуўся, сарваў яе з галавы — на патыліцы ў шапцы з дзвюх свежых дзірак тырчала вата. Ён зноў насунуў яе і падаўся далей.

Але дзе ж гэты Блішчынскі? Цімошкін дапоўз пад сціртаю да яе доўгага боку, куды паўгадзіны назад кінуўся Грышка, і нідзе не ўбачыў яго. Спачатку нешта палахліва-самотнае варухнулася ў душы; аглядаючы наваколле, ён не ведаў, што і думаць. Але вось зусім блізенька, ад самай сцірты, ён убачыў сляды. Шырокія крокі нямецкіх абшытых валёнак крывуляста беглі па снезе ў тыл і знікалі ў недалёкіх кустах вінаградніку.

Дык вось што!

У момант усё стала непапраўна выразна, хлопец аж застагнаў ад бяссільнае злосці і прыкрасці. Чаму ён не прыпоўз сюды на якую хвіліну раней? — такое шкадаванне перш за ўсё скаланула яго пачуцці. Калі б хоць здалёку ён убачыў, як уцякаў гэты гад, дык, не зважаючы на Івана і на нямецкі агонь, кінуўся б па тых ненавісных слядах і дагнаў бы яго. Але ён спазніўся, і земляка ўжо нідзе не было відаць.

За некалькі кароткіх хвілін, пакуль хлопец ляжаў пад кулямі за тою сціртай, цэлы рой устрывожаных думак пранёсся ў яго галаве.

Подлы, агідны чалавек! Чаму ён не даў тады Івану застрэліць яго? Чаму ён увесь час недарэчна стараніўся ўсяго нялюдскага ў ім, не хацеў з ім чапляцца і ўсё думаў, што людзі самі ўбачаць і пакараюць яго. Крыўдлівы боль сціснуў хлопцава сэрца ад усведамлення таго, што Блішчынскі праз яго бяспечнасць ашукаў іх, дваіх параненых, і тым падставіў пад смерць. Вядома, за іхнімі спінамі ён дарвецца цяпер да ратунку, выжыве, дачакаецца светлага дня і кляшчом увап'ецца ў новае пасляваеннае жыццё — увап'ецца ў яго самае салодкае і мяккае месца. На ягоных грудзях будуць вісець баявыя медалі, у кішэнях будуць ляжаць паперкі, што дадуць яму патрэбныя правы ў жыцці, і ён будзе прапаведваць тое, у што сам не верыць, і здабываць сабе выгаду з тых пропаведзяў.

Распластаны на снезе, Цімошкін, мабыць, болей, чым паратунку, прагнуў помсты Блішчынскаму. Праўда, ён не ведаў тады, што б зрабіў з земляком — можа застрэліў бы, а можа б збіў яго ў горкі яблык, бо — разумеў — скардзіцца па закону на гэтага злыдня не было за што. Хіба ён не выконваў з імі баявую задачу ці здрадзіў Радзіме? Яны нават не мелі пэўнага доказу таго, што ён на полі бою пакінуў жывога маёра. Ён вынесе да сваіх ягоную сумку з сакрэтнымі паперамі, прыдумае сабе якое геройства ды яшчэ нагаворыць на хлопцаў за тую гармату. Але ўсё ў Цімошкіне пратэставала супраць Блішчынскага, і ён тут пакляўся сабе, што, калі толькі выжыве, у што б там ні стала знойдзе пісара і люта адпомсціць яму.

Сцірта загарэлася недзе, і вецер настойліва раздзьмуваў у яе чэраве вялізны нябачны пажар. Дым сляпіў вочы і да кашлю драў горла. Збіты з панталыку новай бядой і не дужа імкнучыся ўхавацца, Цімошкін вярнуўся да Івана.

— Ну што?

Паранены павярнуў да яго спахмур-

Імпартгумар

# Нос Гадоліо

Нарадзіўшыся на свет божы, Гадоліо нічым не адрозніваўся ад кожнага іншага дзіцяці і да дванаццаці год быў звычайным, зусім нармальным дзіцём. Але калі яму споўнілася дванаццаць, свет для яго раптоўна перайначыўся ў пекла; яго прыгожы носік раптам пачаў расці сам па сабе, не звяртаючы ўвагі на іншыя часткі цела, да тых пор, пакуль не дасягнуў гіганцкіх памераў. Недарэчны нос быў падобны на гарбуз і задзірліва зязў на маленькім твары. Гадоліо вар'яцеў ад гора.

Ды амаль заўсёды ў нашым жыцці за няўдачай ідзе ўдача. Так здарылася і на гэты раз.

Нехта пусціў чутку, што нос Гадоліо мае цудатворныя якасці. Першымі клюнулі на вудачку старыя дзеўкі. Яны маліліся на нос Гадоліо і прасілі Бога аб замужжы. Затым аб носе дачуліся надужыя старэчы і патрабавалі, каб Гадоліо сваім магічным носам вылечыў іх ад рэўматызму. Гадоліо нікога не пераконваў у адваротным. Прыналежны яму кавалачак храстка і мяса перайначыўся ў грамадскі набытак.

Найбольш фанатычныя жыхары горада, не вагаючыся, гаварылі, што нос пасланы ім як дар божы. Калі нехта захворваў, перш чым звярнуцца да лекара, клікалі Гадоліо і прасілі: „Панюхай яго". І звычайна, калі хворы не ўміраў, дык выздараўліваў. У горад пачалі прыязджаць турысты з фотаапаратамі, прываблёныя чарадзейным носам. Кажуць, што адзін з іх звёў на нос Гадоліо каля васьмі тысяч кадраў і патраціў бы куды больш, ды ва ўсім горадзе кончыліся запасы фотаплёнкі.

У святочных працэсіях Гадоліо заўсёды ішоў наперадзе, урачыста несучы свой нос, а жыхары горада станавіліся перад ім на калені і хрысціліся.

Гадоліо іграў важную ролю ў эканоміцы горада: да яго звярталіся за прадказаннямі аб ураджаі. Ён з таямнічым выглядам нюхаў паветра і гаварыў:

— Магчыма, будзе дождж, але не выключана, што ў апошнюю мінуту хмары развеюцца.

Ды аднойчы прыехаў у горад нейкі Паскуалоне, які славіўся сваімі незвычайнымі вушамі. Пары яго вушэй мог пазайздросціць кожны індыйскі слон. А каб яшчэ больш паразіць людзей, Паскуалоне рухаў сваімі вушамі. Вушы ашаламілі горад. Насельніцтва падзялілася на два лагеры: адны сталі ў абарону носа, другія сталі на бок вушэй. І ўрэшце, як усё новае, перамаглі вушы. І праз нейкі час ніхто ў горадзе — ні старыя дзеўкі, ні старэчы, ні аграномы — нават не ўспаміналі аб носе. Няшчасны Гадоліо не мог перажыць свайго падзення і памёр ад нуды, адзінокі і пакінуты ўсімі.

**Раланда Бетанкур Гамез (Куба)**












## Як пачынаецца сварка

**(ПАВОДЛЕ ЯНА БЖЭХВЫ)**

Нешта гусачка качачцы зводзіць,
Што няхораша курачка ходзіць.
Кліча курачка гусачку ў госці —
Смешны, кажа, у качачкі хвосцік.
Потым качачка курачку кліча,
Нешта шэпча аб дзюбе індычай.
А індычка гусям наракае,
Што цасарка такая-сякая...
Што спачатку шапталі на вушка,
Стала хутка вядома ўсім
птушкам.
Бо і як жа трываць, калі чуеш,
Што казала адна на другую?
Перакажа пляткарцы пляткарка,
І тады — пачынаецца сварка.
Вунь на качак кудахкаюць куры,
Што іх качар — абжорысты
дурань.
А на курачку сварацца гусі,
Што яна толькі ходзіць
ды хлусіць.
Лаюць качкі дурную індычку
За яе балбатлівую звычку.
Потым лае індычка цасарку...
Потым хтосьці кагосьці
па карку...
І, нарэшце, усе птушкі ў балоце,
А з хвастоў — засталося
ашмоцце.

**Янка Брыль**




### ДАЛІКАТНЫ ГОСЦЬ

Аднойчы Івана паклікаў у госці яго сваяк Кузьма.

Пачаставаліся чаркай і пачалі закусваць яешняй. Іван праглынуў кавалачак, другі і скрывіўся. А сваяк Кузьма пытаецца:

— Няўжо вугалёчак трапіўся?

Іван супакоіў сваяка:

— Не, братачка, яешня таксама трапляецца...



*Без слоў.*

### УКЛЮЧЫ ГАЛАСНЕЙ!

— Ой, Іван, у мяне сёння цэлы дзень у галаве музыка! — звяртаецца дзяўчына да хлопца.

— Ну, дык уключы галасней, і я паслухаю.



**...Ён лічыў, што бярэ новыя рубяжы, а гэта былі толькі перашкоды.**

**...Яго хобі: нічым не цікавіўся.**




*XX стагоддзе!*

### РАЗЛІЧЫЛІСЯ

У кватэры сапсаваўся водаправод. Гаспадар пазваніў у домакіраўніцтва і папрасіў прыслаць майстра. Майстар прыйшоў, за пяць мінут паправіў, што трэба, і, намякаючы на чарку, пачаў хваліць сваю работу: „Я вельмі акуратна ўсё зрабіў. Для добрых людзей і працы лішняй не шкада..."

А гаспадар кажа:

— Дзякую за добрыя словы. Прыходзь заўтра, дык я табе лішні раз скажу „дзякуй".



### МІКОЛКА

— Міколка, ты рашыў задачу? — спытаў бацька.

— Рашыў.

— А ну, пакажы сшытак?

— Ды я ж яе ў галаве рашыў, — адказаў Міколка.

### У ЧЫМ СПРАВА

Непісьменная бабуля, атрымліваючы пенсію, заўсёды ставіла крыжык, але аднойчы замест крыжыка паставіла кружок.

— У чым справа? — спытаў касір. — Чаму вы паставілі кружок?

— Я выйшла замуж, і цяпер у мяне іншае прозвішча.

### З ПАДАРОЖЖА ЦІМОХА СКОКА

— Як вам спадабалася падарожжа ў Рым?

— Усё было дасканала, асабліва пакой у атэлі.

— Ну, а сам горад?

— Мы амаль не выходзілі. Пакой каштаваў нам так дорага, што было б недарэчна не карыстацца ім увесь дзень!

### ПРАШУ ВАС ЗА СВЕДКА

— Дарагі Кастусь, а ці не пайшлі б вы мне за сведка ў суд?

— З вялікай радасцю. Вось нядаўна я аднаму пасведчыў, дык далі яму пятнаццаць год...

### СНЕДАННЕ

Двое студэнтаў снедаюць у сталоўцы.

— Але і цвёрдыя ж булкі ў гэтай сталоўцы, — кажа адзін.

— Нічога, — кажа другі, — затое смятана рэдкая.




### ЗЯМЛЯ — ТАВАР ДЭФІЦЫТНЫ

На плошчы перад адной з муніцыпальных устаноў японскай сталіцы тоўпіўся народ. Доўгая чарга марудна рухалася да грузавіка з адкінутымі бартамі. Выстаяўшы гадзіны дзвепаўтары, многія зноў станавіліся ў канец чаргі. Што за дэфіцытны тавар тут прадаюць? Аказваецца — зямлю.

Расліны, якія вырошчваюцца ў кветкавых гаршках, — амаль што адзіная магчымасць для такійцаў дакрануцца да прыроды. Далёка ж не ў кожным раёне горада ёсць паркі і скверы, а плошча зялёных насаджэнняў у гарадскіх кварталах часам не перавышае аднаго працэнта. Але і гэта зеляніна насычана пылам і смогам.

І вось па патрабаванню жыхароў муніцыпальныя ўлады сталі час ад часу прывозіць у Токіо па некалькі грузавікоў зямлі.

### НАСУПЕРАК ПРЫЦЯГНЕННЮ

Цуды, ды і толькі, на гэтай выспе Барнхольм у Балтыйскім моры! Тут выяўлена праўдзівая „зачараваная гара". Калі цераз яе праклалі дарогу, дык аказалася, што аўтамабілі могуць уязджаць на вяршыню з выключаным маторам, падпарадкоўваючыся нейкай містычнай сіле. Мясцовая газета „Барнхольмерен" прыпісвае яе невядомым навуцы „магнітным сілам". Канкурэнт жа газета „Барнхольмс Цідэндэ" цвярдзіць, і, здаецца, не без рацыі, што тут звычайны аптычны падман: тутэйшы рэльеф мае такі значны, хоць і пакаты, схіл у бок гары, што кожная машына ўязджае на яе проста па інерцыі.




**Трэба ацэньваць кожны свой учынак. Але не занадта дорага.**